

# КНІЖКА І ПАДРУЧНІК—ЛЕПШЫЯ СЯБРЫ

I

Дрэвы пажаўцелі,
Голыя палі.
З крыкам паляцелі
Ў вырай жураўлі.
Зноў за кніжкі брацца
Надышла пара.
Весела шагае
Ў школу дзетвара.

II

Кожны дзень прыходзім
Мы ў знаёмы клас.
Шмат цікавых ведаў
Тут чакае нас.
Кніжка і падручнік—
Лепшыя сябры
Для усёй шчаслівай
Нашай дзетвары.

А. Я.



Тав. Сталін (Сосо Джугашвілі) ў школьныя гады.

# ШКОЛЬНЫЯ ГАДЫ ІОСІФА ВІСАРЫЁНАВІЧА СТАЛІНА

*(Па ўспамінах яго школьных таварышоў)*



Сорак дзевяць год назад у Горыйскае чатырохкласнае духоўнае вучылішча хадзіў невысокі хлопчык з сумкай цераз плячо.

Гэта быў сын горыйскага шаўца і прачкі. Пры мізэрным заработку сям'і клапатлівая маці з усіх сіл старалася, каб яе адзіны сын быў не горшым за другіх рэбят. Хлопчык заўсёды быў адзеты акуратна і чыста. На ім было сіняе пальто і высокія боты. З-пад войлачнага капялюша весела глядзелі яго жывыя цёмныя вочы, на руках былі шэрыя вязаныя рукавіцы, а на шыі наматаны шырокі чырвоны шалік. Па гэтым шаліку яго здалёк пазнавалі таварышы.

— Вунь ідзе наш Сосо!—крычалі яны і беглі яму насустрач, бо яго вельмі любілі ў школе: ён быў такі вясёлы, жвавы, дужы, спрытна гуляў у лапту і так добра ўмеў падбіраць удзельнікаў, што яго партыя заўсёды перамагала ў гульні.

Але ён быў не толькі важаком у гульнях на пераменках і ў часы адпачынку,— ён і на ўроках заўсёды быў адным з першых. Калі настаўнік у класе пытаўся: „Хто ведае?“ і ніхто з вучняў не мог адказаць на якое-небудзь цяжкае пытанне, усе глядзелі на Сосо Джугашвілі. Ужо ён то напэўна мог адказаць: ён-жа ведаў гэтулькі розных цікавых рэчаў, пра якія ніколі не апавядаў настаўнік.

У сумцы з чырвонага паркалю разам з падручнікамі заўсёды ляжала якая-небудзь кніжка: увесь вольны час і нават іншы раз на нудным уроку Сосо чытаў. Колькі ён перачытаў кніг! У школьнай бібліятэцы вельмі хутка ўжо не было для яго цікавых кніг, і ён стаў браць іх у Арсена Каландадзе—у кніжным магазіне.

Ён добра памятаў усё, што прачытаў, і заўсёды мог расказаць шмат цікавага.

Нават дарослыя людзі заслухоўваліся яго апавяданнямі, і часта паважаныя горыйскія дзяды прасілі хлопчыка расказаць ім што-небудзь.

— Дзякуй, Сосо,—казаў яму дзядзька яго таварыша Тітвінадзе,—заходзь да нас часцей.



*Дом у Горы,*
*дзе нарадзіўся і жыў І. В. Сталін.*

*З карціны маст. Георгадзе.*

Але не да ўсіх таварышоў Сосо Джугашвілі заходзіў ахвотна,—ён не любіў бываць у багатых дамах.

Яго школьны таварыш Гагохія жыў у доме свайго дзядзькі а ў двары гэтага дома, у маленькай каморцы каля кухні, жыў шавец Вісарыён Джугашвілі з жонкай і сынам. Няважным было іх жыллё: уваход проста з двара—ніводнай ступенькі, падлога цагляная, маленькае акенца давала мала святла. Пакойчык быў маленькі. Гагохія па некалькі разоў на дзень збягаў уніз, у гэты цесны пакойчык, але вельмі рэдка яму ўдавалася зацягнуць Сосо Джугашвілі да сябе наверх, у сваю вялікую кватэру.

У маленькім Горы было мала школ, і паняволі дзеці горыйскіх багачоў вучыліся разам з дзецьмі беднаты, і ў кожным класе былі дзве групы, дзве партыі... Сосо Джугашвілі заўсёды быў з „дзецьмі жабракоў і няшчасных"—так пагардліва называў іх настаўнік Ілурыдзе.

Але ўсё-такі настаўнікам прыходзілася прызнаць яго першым вучнем. У Сосо Джугашвілі была выдатная памяць, і ён ведаў куды больш, чым другія рэбяты.

Іншы раз настаўнікі прыдзіраліся к яму: чаго добрага, гэты малыш можа падумаць, што ён ведае больш за сваіх настаўнікаў! І вось яго выклікалі часцей чым патрэбна было да дошкі, пыталіся па ўсяму курсу, давалі хітрыя пытанні.

Але Сосо Джугашвілі не баяўся гэтых неспадзяваных пытанняў. Ён адказваў спакойна; калі ўжо ён гаварыў што-небудзь, дык быў зусім упэўнены, што гэта так і ёсць,—іначай ён-бы не стаў гаварыць.

Аднойчы настаўнік Ілурыдзе, той самы, што смяяўся з дзяцей беднякоў, запытаў яго:

— Колькі вёрст ад Пецербурга да Пецергофа?

Сосо адказаў.

Але, відаць, настаўнік сам няцвёрда ведаў тое, аб чым пытаўся, або хацеў збіць спанталыку хлопчыка.

— Ты так думаеш?—едка перапытаў настаўнік.

— Я гэта ведаю,—адказаў Сосо.

— Ты памыляешся,—сказаў настаўнік.

— Не, гэта вы памыляецеся,—пярэчыў хлопчык.

— Як ты асмельваешся спрачацца са мною?—узлаваўся настаўнік.

— Я ведаю, што я кажу праўду,—стаяў на сваім Сосо.

Настаўнік стаў крычаць і сварыцца.

Але хлопчык не здаваўся. Ён стаяў, навыцяжку, за партай і смела глядзеў на настаўніка: вочы яго пашырыліся і блішчалі...

— Я кажу праўду,—паўтарыў ён.

Іосіф Джугашвілі ведаў больш за другіх, ён быў першым вучнем у класе, але ніколі ён не хваліўся і не паказваў перад рэбятамі сваіх пераваг. Ён быў добрым таварышам і заўсёды дапамагаў больш слабым. Ён дапамагаў ім рашаць задачы, рысаваў з імі геаграфічныя карты. Іосіф быў добры рысавальшчык, хоць у школе тады не вучылі рысаваць.

Аднаго разу да іх у клас паступіў адзін хлопчык, родам з Мінгрэліі. Ён дрэнна гаварыў па-грузінску, і вучні сталі смяяцца з яго вымаўлення. А Сосо Джугашвілі неяк падышоў да яго і сказаў проста:

— Я хачу навучыцца гаварыць па-мінгрэльску. Давай я буду ў цябе вучыцца мінгрэльскай мове, а ты будзеш вучыцца ў мяне грузінскай?

Сосо было тады толькі адзінаццаць год.

А гадоў у трынаццаць Іосіф Джугашвілі памагаў ужо таварышам па школе разбірацца ў сур'ёзных пытаннях.

Аднойчы ў час летніх канікул ён пайшоў на прагулку са сваім таварышам Глурджыдзе. Непрыкметна хлопчыкі мінулі горад, прайшлі мост цераз Куру, перайшлі праз лінію чыгункі, апынуліся за горадам, на зялёным лугу і леглі на траву. Вакол іх горда высіліся горы, на сінім небе ззяла яркае летняе сонца. Гледзячы на ўсё гэта, Глурджыдзе загаварыў пра бога. Іосіф слухаў, маўчаў, потым сказаў пацыху:

— Ведаеш, нас падманваюць, бога няма...

Таварыш здзівіўся: ніколі ні ад каго ён не чуў такіх слоў.

— Сосо, што ты кажаш?!

— Я дам табе прачытаць кнігу, з якой ты даведаешся, што свет і ўсё жыццё пабудаваны зусім па-іншаму, і ўсё, што апавядаюць пра бога,—хлусня,—сказаў Іосіф.

— Якая гэта кніга?—запытаў Глурджыдзе.

— Дарвін. Абавязкова прачытай,—сказаў Іосіф.

У 1894 годзе—пятнаццаці год—Іосіф Джугашвілі скончыў горыйскую школу. Ён асабліва добра здаў выпускныя экзамены. У атэстаце ў яго стаялі круглыя пяцёркі. Ён нават атрымаў пахвальны ліст—падзея, нечуваная ў той школе! Пахвальныя лісты ў духоўным вучылішчы даваліся звычайна толькі дзецям папоў, а яго бацька быў просты шавец.

## X

Мінулі гады.

Маленькі грузінскі хлопчык вырас і стаў вялікім правадыром велізарнай магутнай краіны, правадыром комуністаў усяго свету, правадыром працоўных усіх земляў і народаў!

Няма ніводнага кутка ў свеце, дзе-б з захапленнем, з надзеяй, з падзякай голасна або шэптам не паўтаралася яго імя: **СТАЛІН.**

(„Мурзилка“)



*Сталін у дзяцінстве. З карціны маст. Д. Волгіна*

# НА АДПАЧЫНКУ

Весела правялі рэбяты летні адпачынак. Загаралі на сонцы, гулялі ў розныя гульні, збіралі калекцыі матылькоў і жукоў, купаліся і лавілі рыбу. Дзесяткі тысяч дзяцей пабывалі ў лагерах, у дамах адпачынку, санаторыях. На здымках — менскія рэбяты на адпачынку.







Фото Б. РАВІЧА.

# ВЕРАБЕЙЧЫК

Апавяданне дзяткора Э. ГАЛУШКОВА.

Ля канюшні на зялёнай траўцы ляжалі Міша і Вася. Адзеты яны былі ў сінія майкі і чорныя трусікі. Хлопцы гаварылі паміж сабою пра розных звяроў і птушак, якіх бачылі ў звярынцы, або пра якіх чыталі ў кнігах.

Міша прыўзняў галаву, а потым штурхануў таварыша ў бок.

— Бачыш, у канюшню вераб'і заляцелі.

— Пойдзем, можа зловім.

— Не зловіш, там дзіркі ёсць—выляцяць,—пярэчыў Вася.

— А калі хочаш злавіць—ідзі сам.

— Добра,—згадзіўся Міша.

— Толькі ты за мной дзверы зачыні хутчэй, калі я зайду ў канюшню.

Так і зрабілі. А праз некаторы час Міша вярнуўся назад, несучы ў руках маленькага верабейчыка. Паміж пальцамі была відаць яго шэрая галоўка.

— Вось і злавіў. Ён ад мяне і не ўцякаў. Сядзеў сабе на жэрдачцы, а я падышоў ды ўзяў.

— Дай мне патрымаць, трошкі,—папрасіў Вася.

— На, ды глядзі не выпусці.

Вася ўзяў птушку і ціха пагладзіў па галоўцы. Верабей быў вельмі напалоханы. Кожная жылка на ім дрыжала, і моцна білася сэрца. Вася дзьмухнуў, і ён заплюшчыў вочкі, баючыся, мабыць, каб хлопчык не задушыў яго.

— Давай паспрабуем выпусціць, ці паляціць ён?

Міша зноў пабег у канюшню. Праз хвіліну верабей узляцеў уверх, часта махаючы крыллямі. Вылецеў праз дзірку на двор ды схаваўся ў траву. Хлопцы яшчэ доўга шукалі верабейчыка, але не знайшлі.

# АДЛЁТ ГУСЕЙ

А. КРОТ

Мыецца неба дажджамі,
Дрэвы без лісцяў стаяць.
А над пустымі палямі
Гусі у вырай ляцяць.

Мерна махаюць крыламі,
Крык развітання чуваць...
Што-ж вы не хочаце з намі,
Гусі, зіму зімаваць?

Ну, дык бывайце-ж вы, гусі,
Нялёгкі далёкі ваш шлях...
Хутка сняжок зацярусіць,
Вецер завые ў палях.

Будзем усе мы катацца,
Снежныя бабы ляпіць.
Будзем у школе старацца
Добра урокі вучыць.

# МЫ АДПОМСЦІМ ГІТЛЕРУ І МУСАЛІНІ!



*Шпіталь Чырзонага Крыжа ў г. Арагандзе, разбураны фашысцкімі самалётамі.*

Нам стала вядома, што параход „Гаванна“ павінен выйсці з Більбао[1] у Еўропу 12 чэрвеня. Было і цяжка і радасна. Цяжка таму, што мы пакідалі сваіх бацькоў, блізкіх, пакідалі сваю радзіму. Радасна таму, што, мы, урэшце, выратоўваемся ад нямецкіх і італьянскіх снарадаў і бомб.

Настала 12 чэрвеня. У гэту раніцу фашысцкія самалёты і гарматы з асаблівай лютасцю бамбардыравалі горад. Зямля калацілася ад жудаснага грукату, які не спыняўся ні на хвіліну. Прадмесце Більбао—Португалета, залітае газай, было ахоплена полымем.

Нам трэба было збірацца ў цэнтры горада і ўжо адтуль ехаць поездам у Португалета, каб сесці на параход. Нечага было і думаць аб тым, каб зрабіць гэта ўдзень, калі вуліцы засыпаюць градам снарадаў і бомб.

Мы чакалі ночы. Калі пад вечар самалёты адляцелі ад горада, па вуліцах, крадучыся, сталі прабірацца маткі з дзецьмі. На вуліцах ляжала шмат забітых. Раненыя корчыліся ў сударгах. Рэбяты падыходзілі да іх, але доўга затрымлівацца нельга было; самалёты-ж маглі кожную мінуту вярнуцца. І сапраўды вельмі скора зноў пачалася бамбардыроўка горада, але цяпер ужо толькі з гармат. Я бачыў, як разрываліся снарады, разбураючы дамы.

У мяне забінтавана нага. Сам я з прадмесця Більбао—Эрандо. Мяне раніла асколкам снарада, калі я бег у сховішча.

І вось, як пачалася бамбардыроўка, рэбяты з маткамі хаваліся ў падваротнях, чакаючы, калі-ж, нарэшце, сціхнуць гарматы. У прамежку паміж узрывамі яны перабягалі вуліцы, прабіраючыся да цэнтра, да таго месца, адкуль нас павінны былі адпраўляць у порт.

Дарагія мае савецкія браты! Я нават не ведаю, як перадаць вам усю жудасць, усё наша гора, каб вы зразумелі, што з намі зрабілі Гітлер і Мусаліні! Я бачыў сваімі вачыма трупы дзяцей, жанчын і старыкоў. Я чуў страшэнныя крыкі раненых. У цёмную ноч мы ўселіся ў поезд, і машыніст павёў наш састаў у Португалета. У гэтую-ж ноч мы селі на параход.

Маткі плакалі, у роспачы ламалі рукі. Я бачыў слёзы на вачах старых людзей. Яны пыталі: „Што з намі будзе?“ І ўсе мы таксама крычалі і плакалі. Як цяжка развітвацца з радзімай і з сваімі блізкімі, калі ведаеш, што навакол пануе смерць!

На параходзе было вельмі цесна. Мы стаялі, прыціснуўшыся адзін да аднаго.

У руках трымалі свае невялікія пажыткі. Хлеба нам не прышлося ўзяць з сабой, таму што яго вельмі мала ў Більбао.

На світанні параход ціха, без сігналаў (каб фашысцкія судны і самалёты не заўважылі нас) адышоў ад прыстані.

Не магу перадаць апошнія мінуты развітання. Маткі плакалі наўзрыд. Усе мы плакалі. Доўга па набярэжнай беглі праважаючыя: яны спатыкаліся, падымаліся і зноў беглі. Махалі хустачкамі, рукамі. А мы, стоячы на палубе з узнятымі кулакамі, крычалі:

— Мы адпомсцім за Басконію!..

[1] Більбао—горад Іспаніі, сталіца баскскага народа.

Калі мы былі ўжо ў моры, да нас даносіліся глухія раскаты ўзрываў. Фашысты зноў прыняліся за сваё: яны бамбілі нашу сталіцу.

Мы пакінулі нашу краіну. Але мы адпомсцім! За ўсё і за ўсіх мы адпомсцім Гітлеру і Мусаліні!

**Вісенто Лопес**

# ПІСЬМО З ІСПАНІІ

*Ганне Чэрэмісінай*

Паважаны таварыш і друг!

Я ганаруся, што клас даручыў мне адказаць на тваё пісьмо.

У нашай школе каля тысячы вучняў. Я вельмі хацеў-бы вывучаць жывёльны свет, але зараз гэта немагчыма. Калі нашы бацькі выганяць фашыстаў з Іспаніі, тады будзе іншая справа.

Я чуў, а таксама чытаў трохі аб Пушкіне. Быў-бы вельмі ўдзячны, калі-б ты прыслала мне біяграфію гэтага вялікага рускага паэта. Усе рэбяты ў нашым класе хочуць ведаць аб яго жыцці.

Я хацеў-бы наведаць вашу краіну, але зараз вельмі цяжка выехаць на караблі, таму што фашысцкія бандыты могуць патапіць яго. Скора мы вызвалімся ад фашысцкіх нягоднікаў, і тады, я спадзяюся, мы будзем прыязджаць адзін да другога.



*Баец рэспубліканскай арміі кідае дынамітную бомбу ў танк мяцежнікаў.*



*Байцы рэспубліканскай арміі на пасту ў акопах на Мадрыдскім фронце.*

Я раскажу табе аб адным выпадку, які нядаўна адбыўся ў час бамбардыроўкі.

Мы знаходзіліся ў класе, калі пачуліся гудкі паветранай трывогі. Настаўнік павёў нас у сховішча. Некаторыя хлопцы і дзяўчаты перш спужаліся трывожных гудкоў, і пачаўся беспарадак. Тады піонеры нашага класа пачалі спяваць „Інтэрнацыянал“ і гімн піонерскага саюза. Астатнія рэбяты таксама падхапілі песню, і паніка адразу спынілася.

У гэтым пісьме пасылаю табе фатаграфіі разбурэнняў, зробленых фашыстамі ў Мадрыдзе. Мы таксама пасылаем табе нашу фатаграфію.

Вітаем цябе ад імя піонераў нашай групы!

**Гэтае пісьмо з Іспаніі атрымала тамбоўская піонерка Ганна Чэрэмісіна.**

# ПАЖАР

Апавяданне **РУНЦА П.**

Паўлікаў бацька—ляснік. Аднойчы бацька захварэў. Яму трэба было паехаць у бальніцу. Ад'язджаючы, ён даручыў Паўліку наглядаць за лесам.

— Наглядай асабліва за палянкай з дрывамі. Ведаеш, колькі там багацця,—сур'ёзна сказаў бацька, а потым ласкава дадаў:— Ды і суш якая стаіць...

— Не маленькі-ж я, разумею,—задорна адказаў Паўлік.

— Дык глядзі-ж...

Паўлік сабраўся і падаўся ў лес.

Неўзабаве ён падышоў да рэчкі, якая апаясвала бор. Сонца ўжо было высока. Рэчка, прыветна ўсміхаючыся, клікала яго да сябе. Але Паўлік ідзе сваёй дарогай. І толькі ён узышоў на мост як раптам пачуў:

— Паўлік, куды ты?

Паўлік аглянуўся. Гэта быў яго таварыш Сашка. Ён стаяў па пахі ў вадзе і махаў рукою. Сашка хістаўся, і ад яго адыходзілі невялікія хвалі, якія шырокімі кругамі разбягаліся ва ўсе бакі. Паўлік спыніўся.

— Чаго стаіш? Ідзі сюды!—даносіцца зычны голас Сашкі.

Паўлік падышоў да берагу.

— От вада цёплая, як у гаршку,—плёхаючыся, заахвочваў Сашка.—Раздзявайся!

Паўлік абвёў вачыма лес, але нічога падазронага не заўважыў.

— Зараз!—сказаў ён і, скінуўшы адзежу, з разгону бухнуўся ў ваду.

Закупаўся Паўлік і забыўся, што трэба вартаваць лес. А як вылез з рэчкі і глянуў на лес, дык і ахнуў. Над лесам віўся слуп чорнага дыму. Паўлік збялеў ад страху. Сэрца моцна забілася. Твар хваравіта зморшчыўся. Не паспеў Сашка адзецца, як Паўлік ужо імчаўся да лесу.

Падбягаючы, хлопцы пачулі сухі трэск палаючага галля. Угору ўзнімаўся слуп агню, дыму, іскраў. Лёгкі ветрык гнаў агонь у той бок, дзе ляжалі штабелі сухіх бярозавых дроў, шпал, бярвенняў... „Ды гэта-ж усё згарыць, калі не затушыць агню",—падумаў Паўлік.

Доўга не думаючы, хлопцы ўхапілі сырыя яловыя галіны і пачалі ўпарта сцёбаць па агні. Было страшэнна горача. Дым выядаў вочы. Дыхаць было цяжка.

Хутка хлопцы пераканаліся, што праца іх дарэмная. Ад вялікай гарачыні галіны высахлі і запылалі яркім полымем. Давялося іх кінуць у агонь. Хлопцы спалохана пераглянуліся. Агонь рос і пашыраўся ўвачавідкі. І ў гэтую рашучую хвіліну Паўлік цвёрда вырашыў, што трэба рабіць.

— Сашка, не дапускай агню да дроў, а я пабягу ў калгас,—крыкнуў ён, і з лёгкасцю птушкі паляцеў у бок калгасу. Толькі голыя ногі бліскалі ў паветры.

У калгасе яго сустрэла новая бяда. Усе калгаснікі былі на полі, жалі жыта, а калі хто і быў, дык дзе іх шукаць, як склікаць? Паўлік задумаўся. Раптам яго погляд спыніўся на пажарным дэпо. Ён падбег да каланчы, як кот узабраўся на слуп і ўдарыў у рэйку.

„Бом, бом, бом, бом..." трывожныя удары агаласілі ваколіцу. Неўзабаве з хат, з гумнаў, з поля пачалі збягацца людзі. Паўлік з усіх сіл крычаў:

— Пажар! Лес гарыць! Дровы, бярвенні ратуйце!

Усе зразумелі, што здарылася. Узняўся гоман, крык. Але праз момант усе з рыдлёўкамі, з сякерамі, вёдрамі імчаліся ў лес. Хутка пратарахцела пажарная машына.

Паўлік саскочыў з слупа і таксама пабег услед за калгаснікамі.

Праз гадзіну пажар быў патушаны.

# ПЕРШЫ  ПАЛЁТ

**М. ЛЫНЬКОЎ**

З усіх дзяцей на нашым дварэ Янка быў самым найлепшым знаўцам паветранай стыхіі, спрактыкаваным майстрам у такой сур'ёзнай і далікатнай справе, як авіяцыя. Адрозніць адзін самалёт ад другога, прыгадаць імёны нашых найлепшых лётнікаў, паказаць розніцу паміж навігацыяй і аэранавігацыяй[1]—усё гэта было для яго справай адной хвіліны. Я ўжо не кажу пра імёны братоў Райт, пра Монгальф'ера, Блерыо, Утачкіна[2] і іншых. Не ведаць іх—гэта значыла ў вачах Янкі быць абсалютна нікчэмным чалавекам.

З-за гэтых братоў Райт у Янкі здараліся часам вялікія непаразуменні з яго бабкай Арынай. Толькі гэта ён пачне распісваць першых авіятараў, як старая бабуля, крыху глухаватая на абодва вухі, прыслухаецца ды ў гаворку ўлезе, абурацца пачне:

— І чаго ты, Янка, гэтых Райтовічаў хваліш, жулікі яны і больш нічога...

У Янкі аж вочы на лоб лезуць ад бабчыных слоў.

— Якія Райтовічы? Прычым тут Райтовічы?

— А тыя-ж самыя, што пад намі жывуць, побач з дворніцкай кватэрай... Зусім кепскія людзі.

— То-ж Райтовічы, а то Райты... То ж хуліганы і лодыры, а то смелыя лётнікі... Райты, бабка, Райты...

— Ат, Райты-смайты... Даліся гэтыя Райтовічы ў знакі кожнаму, хто жыве на дварэ...—стаяла на сваім бабка.

— Дык то-ж Райтовічы, не пра іх гаворка ідзе...—ледзь не плачучы, даводзіў сваё Янка.

— Дык чаму тады хваліш?—не сунімалася бабка.

— Ну, пагавары ты з ёй пасля гэтага!— І Янку заставалася толькі адно: папракнуць бабку ў вялікай несвядомасці і адсталасці.

... З сваімі аднагодкамі, якія жылі з ім на адным дварэ, Янка надумаўся наладзіць уласную ўсамдзелішную парашутную вышку. Яны часта збіраліся разам пад старым клёнам і доўга абдумвалі, як-бы гэта ямчэй і хутчэй рушыць усю справу. Было шмат праектаў. Адзін—скарыстаць высокую ігрушу. Другі—прыстасаваць для гэтай справы слуп з ліхтаром, што стаяў пасярод двара. Трэці праект—скакаць проста ўніз з берагавой кручы на Дняпры, які працякаў по-



[1] Навігацыя і аэранавігацыя—навукі аб тым, як трэба вадзіць судны і самалёты.

[2] Монгальф'ер, Райт, Блерыо, Утачкін—імёны першых заваёўцаў паветра і авіятараў.

блізу ад дому. Усе праекты давялося, аднак, адхіліць. Скакаць з ігрушы—небяспечна. Як ніяк, задужа высокая. Лазіць на слуп зусім нязручна, ды пад слупам яшчэ каменны брук, куды-ж ты на яго скочыш. З берагу скакаць—страшнавата.

І тады спыніліся на апошнім праекце. За дваром быў вялікі сад і ў ім невялічкі, невысокі хлеў. Месца было самае зручнае. Невысокая страха, унізе мяккая зямля—у самы раз скакаць. Ды і месца глухое: ні цябе дворнік не ўбачыць, ні дарослыя перашкаджаць не будуць.

— Вось тут і будзем скакаць ды пабіваць сусветныя рэкорды!

І тут толькі хапіліся, што нестае ім невялічкай дробязі—парашута. Калі скакаць, дык трэба-ж нейкая прылада, без яе не абыйдзешся.

Адзін з таварышоў прапанаваў Янку пазычыць парашут у яго бацькі-лётніка.

Янка зірнуў на яго так, як глядзіць з вышыні арол на куранят, і нічога нават не адказаў. Што ты скажаш гэтаму невуку! Але каб не пакрыўдзіць таварыша ён горда агледзеў парашутную вышку і, звярнуўшыся да ўсіх, прамовіў:

— Не падыходзіць вышыня! Бацькаў парашут не паспее раскрыцца... А па-другое, бацькаў парашут завельмі цяжкі, паспрабуй-ка з ім забрацца на страху... Зноў-жа, бацька, відаць, і не дасць парашута, гэта не забаўкі якія, з яго парашутам скачуць аж з-за воблакаў...

Усе ўздыхнулі. Становішча сапраўды было цяжкае. Адна надзея была на Янку: а можа ён што і надумае, ён-жа аднаго разу і на самалёце лятаў, ён і Райтаў ведае, ён усамадзелішны парашут бачыў. Вось чаму ўсе бадай у адзін голас запыталі Янку:

— Дык як-жа мы будзем?

— Што-ж, падумаю...—ціха праказаў Янка. І раптам ажывіўся, павесялеў.

— Няйначай на бабчыным парасоне давядзецца скакаць! Толькі вы—ціха! Каб ні слова, ні гуку... Даведаецца бабка—не абярэшся ліха...

Усе ўрачыста пакляліся ні словам, ні намёкам не выдаваць вялікай парашутнай тайны.

Над бабчыным парасонам павісла цяжкая пагроза, страшная небяспека—трэба было выкрасці яго з-пад бабчынай улады. А гэта не такая ўжо простая справа. Парасон хаваўся ў старым камодзе, ключы ад яго хаваліся ў бабкі. Трэба было сачыць за яе паводзінамі, чакаць пакуль не возьмецца яна за чаргова праветрыванне сваёй маёмасці, а гэта яна рабіла даволі часта, бадай што кожны тыдзень. І вось настаў урэшце доўгачаканы дзень. Увесь парашутны атрад прышоў у вялікі рух, пачуўшы ад Янкі сакрэтныя паведамленні: „Бабка адчыняе камод... бабка вымае свае капоты... бабка дастае дзедаў пінжак... І ціха... ціха... ціха! бабка ўзялася за парасон!“

Усе чакалі прытаіўшы дух, каб не парушыць справы. І вось на балкон зноў выходзіць бабка і ў руках у яе жаданы парасон. Яна марудзіць, крэкча, доўга не паддаюцца старэчым пальцам гузікі парасона, не хоча раскрывацца ён. Але ўрэшце і парасон знайшоў сваё месца на балконе. І стомленая бабка пайшла адпачываць на канапу.

— Ну, цяпер глядзі. Каб разам усе, як па камандзе!—таемна шапнуў Янка і, крадучыся, кінуўся ў хату.

Вось ён на балконе, вось ён падвязвае вяровачку за парасон—не цягнуць-жа яго проста, так на руках: угледзіць бабка, не абярэшся гора. Як ні ў чым не бывала, ідзе Янка назад праз пакой, таемна, як змоўшчык, пазірае на бабку. Але яна спакойна дрэмле на канапе, не прадбачачы ніякай пагрозы слаўнаму свайму парасону.

Янка ўжо на двары, каля парашутнай каманды. З вялікімі перасцярогамі падыходзяць усе пад балкон, бяруцца за спушчаную вяровачку, асцярожна цягнуць за яе. Яшчэ хвіліна, і бабчын парасон ляціць з балкона і мякка шлёпаецца аб зямлю. Каманда стрымгалоў кідаецца з ім у сад, да парашутнай вышкі.

— Агледзець парашут!—загадвае Янка.

Каманда аглядвае здабычу. Агляд не зусім задавольвае яе: бабчын парасон хоць і вялікі, але задужа стары і да таго паз'едзены моллю, што зірні праз яго на сонца— адно толькі рэшата. Ды шмат яшчэ непатрэбнага чаго. Па краях парасона ідуць старасвецкія карункі, касцяная ручка з усякімі выкрунтасамі, спіцы некаторыя парасхістаныя.



— Ці вытрымае толькі ў паветры?—сумняваюцца хлопцы.

— А мы вяровачкай падвяжам, будуць сапраўдныя стропы, як у самдзелішным парашуце...—падае параду Янка.

Прайшла якая гадзіна, пакуль хлопцы прывялі парашут да парадку: пазашывалі дзіркі, падклеілі сям-там клеем, папрывязвалі стропы.

— Цяпер можна пачынаць. Каму-ж скакаць першым?

— Пачакайце, пачакайце! Трэба яшчэ медыцынскі агляд учыніць, можа хто здароўем слабы, у каго можа сэрца не дазваляе.

За доктара выступіў Янка. Быў ён вялікім спецам на ўсё. Старанна прамацаў кожнаму пульс, праслухаў сэрца, прыкінуў на вока вагу кожнага летуна. Усё было ў парадку. Толькі адзін з кампаніі, Грышка-Лісапет (так празвалі яго чамусьці за спрытны бег) быў адхілены ад палётаў з прычыны яго малога ўзросту. Але і яму далі абавязак:

— Будзеш каманду падаваць, а калі трэба—клеіць парашут...

На гэтым усе згадзіліся і прыступілі да справы.

Каму-ж, як не Янку, першаму кінуцца са страхі на волю паветранай стыхіі. І вот Янка лезе ўжо на хляўчук, цягне за вяроўку бабчын парасон, цяжкі ён, нязручны. Аж сапе Янка, лоб упацеў, пакуль забраўся ў падвоблачныя вышыні, аж на самы край страхі. Зірнуў на зямлю: страшна! Больш трох метраў трэба было праляцець, аддаўшы сваё жыццё ва ўладу бабчынага парасона. А раптам ды падвядзе гэты парашут! Але не можа быць ніякіх сумненняў для храбрага лётніка... Янка высока падымае парасон, трымаючы яго ў абедзвюх ру-

ках. Янка становіцца на самы край страхі. Янка падгінае крыху калені, каб ямчэй скочыць у паветра. Янка прыжмурвае вочы, ён гатовы да скоку.

І тут здарылася непрадбачаная аварыя. Адхілены ад палётаў Грышка-Лісапет успомніў раптам свае абавязкі і так крыкнуў, што напалохаў усю парашутную каманду.

— Стой! Стой! Каманды яшчэ не было!— закрычаў ён такім прарэзлівым голасам, што стаяўшы за плотам міліцыянер хапіўся быў за свісток, каб узняць трывогу. Але не пачуўшы больш крыку, сунуў свісток у кішэню.

Для Янкі-ж Грышкаў голас меў трагічныя вынікі. Ці з перапалоху, ці проста ён паслізнуўся на страсе, але хутка ўбачылі нашы парашутысты, як Янка стрымгалоў паляцеў са страхі і, учапіўшыся штанамі за цвік, павіс у паветры, бяспомачна дрыгаючы нагамі і галавой. Рукамі ўсё-ж ён моцна трымаўся за ручку парасона, які таксама ўчапіўся чамусьці за страху і не выказваў ніякага намеру ляцець уніз.

Уся каманда аж войкнула ад страху, а Грышка-Лісапет паімчаў, як дуж, дахаты, падалей ад аварыі.

І не паспела наша каманда адумацца як след ад здарэння, як пачула пагрозлівыя гукі. То яўна здавалі Янкавы штаны і, распаўзаючыся па кожнаму шву, падазрона патрэсквалі, наводзячы яшчэ большы жах на адважных авіятараў.

— Штаны, Янка, штаны ратуй!—крыкнулі ўсе ў адзін голас. Але дзе ты іх выратуеш? Яшчэ хвіліна, другая—і палавіна штаноў засталася вісець на цвіку, а вызвалены ад іх Янка паляцеў уніз у самым што ні ёсць свабодным палёце. Усе прыжмурылі вочы... Няйначай загінуў Янка без пары і без часу... Але калі зірнулі зноў, дык убачылі нечаканую з'яву. Слаўны парашутыст, апынуўшыся доле, нечакана падскочыў угару так высока, што, здавалася, вот-вот будзе ён зноў на страсе. Але гэта толькі здалося. Янка проста выскачыў да іх з крапівы, трымаючы ў адной руцэ пустую ручку ад парасона (разарваны парашут таксама астаўся вісець на страсе), а другой рукой трымаючыся за тыя месцы, дзе па ўсіх правілах і законах належала быць штанам.



Мал. А. ШАХРАЯ.

— Ну, як?—кінуліся да яго таварышы, каб запытацца аб перажываннях у палёце.

— Пячэ, дужа пячэ, хоць ты ў ваду садзіся...—не знайшоў нічога іншага што адказаць наш лётнік...

— Што пячэ?

— Ды хіба не бачыце? Крапіва...

І тут толькі заўважылі, як моршчыўся Янка, аж слёзы паказаліся на вачах, ды хапаўся за мясціны, якія блізка пазнаёміліся з жыгучкай.

— Харошае гэта дзела—без штаноў у крапіву скакаць!

Так трагічна закончылася першае парашутнае практыкаванне нашага Янкі. А парашут загінуў назаўсёды.

Урывак з кніжкі „ЯНКА-ПАРАШУТЫСТ"



# ВАВЁРАЧКА

**Апавяданне дзяткора А. КАЎКО.**

Маленькая вавёрачка нарадзілася ў гушчары сасновага бору. Спачатку яна была зусім слабая і знаходзілася пад аховай і пільным наглядам свае маткі. Потым яна падрасла, узмацнела і стала часцей вылазіць з свайго дупла.

Аднаго разу яна вылезла з цёмнага дупла і пачала скакаць і забаўляцца ў галлі высокіх дрэў. На тоўстым суку старога дрэва яна знайшла спелую сасновую шышку і пачала лушчыць зерні.

Навакол было ціха, толькі сосны шумелі вяршынамі і дзе-ні-дзе ў зарасніках стукалі дзятлы.

Раптам вавёрачка пачула падазроны шорах і насторажылася. Вочкі яе жвава забегалі, і яна зірнула ўніз. Пад тоўстым, разложыстым дрэвам стаяў чалавек са стрэльбаю ў руках. Перапалоханая прысутнасцю чалавека, вавёрачка кінулася наўцёкі. Яшчэ хвіліна, і яна схавалася-б у дупле, але пачуўся моцны стрэл, і вавёрачка скінулася далоў.

Падышоў паляўнічы і ўзяў яе на рукі. Вавёрачка была жывая. Грукат стрэлу аглушыў яе. Правая лапка была паранена. Паляўнічы перавязаў рану стужачкай і панёс вавёрачку дамоў.

Яшчэ здалёк дзеці сустрэлі бацьку. Яны абступілі яго і пачалі ўважліва разглядаць вавёрачку. Бацька аддаў вавёрачку дзецям. Яны, задаволеныя, панеслі яе паказаць сваім сябрам. Разам с сябрамі яны пачалі абмяркоўваць, што рабіць з вавёрачкаю.

— Як загоіцца рана, тады пусціце яе!— крычаў Лёва.

— Пускаць не трэба, лепш у школу возьмем!—пярэчыў Коля.

— Няхай жыве ў нас!—гаварыла Люся.

— Цішэй, не крычыце, будзем галасаваць,—параіў Міхась.

Большасць галасоў было за тое, каб узяць вавёрачку ў школу.

У школе для вавёрачкі пабудавалі прыгожую клетку з тонкіх дошчачак. Дзеці вельмі любілі сваю вавёрачку і на кожным перапынку беглі, каб паглядзець на яе. Цікава было глядзець, калі яна станавілася на заднія лапкі, а ў пярэдніх трымала які-небудзь ласунак. Дзеці кармілі яе арэхамі і зярняткамі ад сасновых шышак. Шмат прыносілі ёй розных ласункаў і кідалі ў клетку, але відаць было, што не падабалася вавёрцы сядзець у клетцы. Яна ўвесь час імкнулася на волю.

Аднаго разу, у цёплы сонечны дзень, дзеці прынеслі вавёрачку ў клас. Тут для яе было больш прастору, чым у клетцы, і яна весела бегала па вокнах, па скамейках, урэшце трапіла на кніжную шафу. Дзеці моцна смяяліся і былі задаволены. Але раптам вавёрачка скочыла на акно і выскачыла на двор. Толькі цяпер дзеці ўспомнілі, што забыліся прыкрыць фортачку.

Вавёрачка кінулася ў школьны сад. Яна ўзлезла на высокае дрэва, агледзелася навакол і, не трацячы часу, накіравалася ў суседні лес.

Дзеці вельмі шкадавалі і доўга ўспаміналі сваю любімую вавёрачку.




## КАЗКА

Жылі сабе дзед з бабаю. Жылі яны ў згодзе, быў у іх і хлеб, было ў іх і да хлеба, але вось бяда—не было ў іх дзяцей. Тужыў дзед, тужыла і баба, што на старасці няма да каго прыгарнуцца, няма з каго пацешыцца. Толькі тае і ўцехі, што ў хаце разам пагаварыць, а калі дзед куды паедзе, дык бабу такая нуда апануе, што яна горкімі слязамі заліваецца, ды чакае не дачакаецца, пакуль дзед прыедзе.

Пайшоў аднаго разу дзед лавіць рыбу. Закінуў ён сетку, цягне яе к берагу і чуе, што нешта туга падаецца. Выцягнуў дзед сетку на бераг, глядзіць,—аж бачыць рак у сетку трапіў. Вытрас дзед рака разам з рыбай у торбу і пайшоў дадому.

Сустрэў дзед каля дому бабу, выняў з торбы рака ды кажа:

— На табе, баба, сынка, будзеш з ім гутарыць.

Паглядзела баба на дзеда, падзівілася з яго ды кажа:

— Ці не здурнеў ты, дзед? Дзе гэта ты чуў, каб рак гаварыў?

А рак тым часам паварушыў вусамі, паглядзеў на бабу і адказаў:

— Праўда, праўда, мамачка, я буду з табою гутарыць.—Баба аж падскочыла ад радасці. Узяла рака на рукі, нацешылася з яго, а потым пачала гатаваць абед.

А дзед запрог валы і паехаў на поле араць.

Наварыла баба стравы, павязала гаршкі ў абрус і ўжо хацела несці дзеду, але рак зірнуў на яе ды кажа:

— Дай, мама, я занясу, а ты крыху адпачні.

Паглядзела на яго баба ды пытае:

—Як-жа ты панясеш, калі ты такі маленькі?

— Дарма, што маленькі,—кажа рак,— кладзі гаршкі ў кошык і пастаў долі, а я спраўлюся.

Баба паклала гаршкі, паставіла кошык долі, а рак падпоўз пад кошык і панёс яго, ды так хутка і спрытна, што і сама баба не магла-б так патрапіць.

Стаіць баба, глядзіць на рака і не можа нацешыцца з яго.

А дзед тым часам арэ на полі і думае сам сабе, чаму гэта баба абеда не нясе. І толькі ён гэта падумаў, аж бачыць, што па дарозе кошык сунецца і проста да яго.

Спалохаўся дзед, глядзіць і сам сабе не верыць, што гэта за дзіва такое. Падсунуўся кошык да дзеда і спын уся, а з-пад яго вылез рак ды кажа:

— Вось, татка, я табе і абед прынёс. Ты сядзь сабе паабедай, а я паару.

Узлез рак валам на ярмо, ды так добра пачаў араць, што і сам дзед не мог так патраціць.

А якраз гэтаю дарогаю ехаў па дарозе пан. Глядзіць пан і думае сабе, што гэта за дзіва такое,—самі валы аруць, а дзед сядзіць і люльку курыць. Вылез пан з каламашкі, падышоў да дзеда ды пытае:

— Хто гэта арэ ў цябе, калі ты сам сядзіш?

— А гэта, паночку, сын мой - рак, ён арэ замест мяне.—Падышоў пан бліжэй, паглядзеў і, сапраўды, бачыць, сядзіць рак на ярме ды яшчэ і валоў паганяе.

— Прадай, - кажа пан,—мне свайго сынка. Што табе даць за яго?



Дзед заківаў галавою і кажа:

— Дзе-ж вы бачылі, панок, хіба-ж я магу свайго сынка прадаць.

А рак гэта чуе. Ён падпоўз да дзеда і кажа: „Прадавай мяне, тата, але толькі з такою умоваю: калі я ўцяку за тры дні тры разы, то прападуць яго грошы“.

Дзед згадзіўся і запрасіў у пана за рака тысячу рублёў. Старгаваліся. Пан адлічыў жменю грошай, аддаў дзеду і забраў рака. Ён пасадзіў яго ў драўляную скрыначку, шчыльна зачыніў, каб не ўцёк, і паехаў.

Прыехаў пан дадому, унёс скрыначку ў пакой і кажа жонцы і дзецям:

-- Вось дык дзіва я вам прывёз! Паглядзіце толькі; гэты рак, што ў скрыначцы, умее гаварыць.

Адчыніў пан скрыначку, глядзіць, а яна пустая, толькі дзірка на дне відаць.

Паглядзела пані на пана і думае сама сабе, ці не звар'яцеў ён.

А пан, нічога больш не сказаўшы, хутчэй сеў на каня і паехаў да дзеда.

Сядзіць дзед з бабаю за сталом, вячэраюць, а каля іх і рак.

Увайшоў пан у хату, глянуў на рака і запытаў:

— Дык гэта ты ўцёк?

— Але-ж, панок, як бачыце, уцёк і яшчэ два разы думаю ўцячы.

— Не дачакаеш ты больш уцякаць,— сказаў пан. Ён забраў рака, палажыў яго ў бляшаную скрынку, шчыльна закрыў і прывёз дадому.

На парозе ён сустрэўся з жонкаю і дзецьмі, выняў рака і паказвае:

— Паглядзіце,—кажа,—якая цацачка, яна нават гаварыць умее,—і аддаў рака дзецям для забавы.

Гуляе рак з дзецьмі, гутарыць, казкі гаворыць ім і песні спявае. Глядзяць пан з паняю на рака і цешацца:

— Вось,—кажуць,—пацеха будзе, калі суседзі з маёнткаў панаязджаюць.

Пільнуе пан рака, ні на хвілінку з вачэй не спускае, баіцца, каб не ўцёк. Пасадзіў ён рака нанач у той пакой, дзе спалі дзеці, загадаў, каб шчыльна ўсюды пазачынялі дзверы, ды яшчэ лёкая і пакаёўку паставіў, каб пільнавалі.

Уночы аблазіў рак усе куточкі, але і шчылінкі не знайшоў, каб вылезці. Тады ён узлез на пасцель, дзе спалі паненкі і пазвязваў ім косы. Прачнуліся паненкі і пачалі сварыцца:

— Пусці мяне!—крычыць адна

— Адчапіся ты!—крычыць другая, і пачалі біцца, а потым паднялі такі гвалт і крык на ўсе пакоі, што пазбягаліся ўсе служкі, а за імі перапалоханыя пан з паняю. Усюды насцеж паадчынялі дзверы і забыліся пра рака. А рак гэтым часам спакойна выпаўз на двор і пабег дадому.

Убачылі пан з паняю, што косы ў паненак пазвязваны, і толькі тады ўспомнілі пра рака. Шукалі яго ва ўсіх куточках, але дарэмна...

Раніцою загадаў пан хурману запрэгчы коні і паехаў к дзеду па рака. Прыехаў пан, а дзед з бабаю снедаюць і рак разам з імі ў бабы на прыполе сядзіць.

Пан аж закалаціўся ад злосці.

— Ах, ты,—кажа,—сякі, такі, зноў мяне перахітрыў, пачакай-жа, цяпер не ўцячэш!

— Уцяку!—кажа рак,—каб я так жыў!

Забраў пан рака дадому, прынёс у свой пакой. Пільнаваў ён рака цэлы дзень, з вачэй не спускаў. Але ўночы, седзячы на канапе, пан крыху задрамаў. Тады рак успоўз на стол, узяў сярнічкі і запаліў панскія паперы.

Усхапіўся пан, бачыць—поўны пакой дыму. Ён думаў, што ўвесь яго маёнтак гарыць, і давай крычаць і прасіць ратунку. Пазбягаліся людзі, пачалі тушыць, а рак тым часам праз адчыненыя дзверы ўцёк.

Прыбег ён дадому ды кажа бабе:

— Укінь мяне, мама, у гарачую ваду.

Спалохалася баба і пытае:

— Што гэта ты, сынок, надумаўся?

А рак адказвае ёй:

— Хутчэй гатуй ваду, а то зараз прыдзе пан і заб'е мяне.

Паслухала баба рака, нагрэла ў печы вады і кінула яго ў вар.

Глядзіць баба, аж праз хвіліну з вады выскачыў прыгожанькі, кучаравы хлопчык.

Узрадавалася баба, узрадаваўся і дзед, сталі яны цалаваць яго і цешыцца.

Неўзабаве прыехаў разгневаны пан і пытае ў дзеда, ці прыходзіў сюды рак.

— Не,—кажа дзед,—не бачыў.

— Шчасце яго,—сказаў пан,—а то я намерыўся забіць яго, калі злаўлю.

Загадаў пан усім сваім слугам хадзіць па дарозе і шукаць рака, а дзед з бабаю цешацца не нацешацца з свайго хлопчыка.

А пан з дасады зусім здурнеў, ён усё ходзіць і шукае рака. Мабыць, ён яшчэ і сёння шукае, але не знойдзе.

Запісала **К. ГУДЗІМЕНКА**

Апрацоўка **Я. ГЕРАСІМОВІЧА**



# ГЕРАІЧНЫ УЧЫНАК

15-гадовая Маруся Арыстава з таварышкамі ішла са станцыі Цемітбекскай (Азова-Чарнаморскі край) у поле. Праходзячы па палатну чыгункі, Маруся заўважыла трэснуўшую рэйку. Яна пакінула сваіх таварышак і хутчэй пабегла на станцыю, каб паведаміць аб гэтым. Але не паспела яна дабегчы да станцыі, як пачула шум поезда, які ішоў з горада Варашылаўска.

Маруся адразу зразумела, што пакуль яна дабяжыць да станцыі, поезд пройдзе па трэснуўшай рэйцы, і тады атрымаецца катастрофа.

Не разважаючы далей, Маруся пабегла назад. Дабегла да трэснуўшай рэйкі, сарвала з галавы белую касынку і пачала ёю размахваць. Поезд ішоў поўным ходам, не збаўляючы хуткасці. У дзяўчынкі мільганула думка, што поезд можна спыніць толькі чырвоным сігналам. У тую-ж хвіліну, яна параніла сабе нагу і, афарбаваўшы касынку кроўю, кінулася насустрач поезду. На гэты раз машыніст заўважыў сігнал. Поезд быў спынены.

Упраўленне дарогі імя Варашылава прэміравала за гераічны ўчынак Марусю Арыставу пуцёўкай у дзіцячы санаторый і 300 руб. грашыма.

(„Пионерская правда").

А. ВОЛКАЎ.

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРЫГОДЫ НЕЮНАГА НАТУРАЛІСТА

Частка I







ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ВЕРАСЕНЬ 1937 г. № 9

ЦАНА 30 кап. 069



А. ВОЛКАЎ

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРЫГОДЫ НЕЮНАГА НАТУРАЛІСТА

Частка II













Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА. Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Друку.

Друкарня імя Сталіна. 20.000 экз. Зак. № 1378. Галоўлітбел № 2745.